Цана асобнага нумару 20 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 31. Вільня, Чацьвер 30 Верасьня 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзэнь.

**Падпіска:**
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.

**Цана абвестак:**
на 1-ай старонцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку уваднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## Арганізуйма нашаю працу!

Добра ведама ўсім, што рэзультаты працы залежаць ня толькі ад затрачанай на яе энэргіі, але таксама й ад добрай арганізацыі яе. Пры добрай арганізацыі можна зь меншымі сіламі зрабіць балей, як зь вялікімі сіламі пры арганізацыі горшай. У нас Беларусаў ёсьць ужо значна людзёў дзеля працы над адраджэньнем, вызваленьнем і развоем нашага народу. Але лішніх сілаў у нас нямашака, нямаш ані воднага чалавека лішняга. Дзеля гэтага тыя сілы, што мы маем, павінны быць вельмі ўмела выкарыстаныя. Трэба яшчэ прыняць пад увагу, што мы народ, які ня мае цяперака свайго собскага гаспадарства, ня мае навет аўтономіі ды, што казаць, жывем у найвялікшым перасьледаваньню і зьдзеках. Гэта надзвычайна нам перашкаджае ў поўнай меры аддаць свае сілы на карысьць нашага народу. Пры такім нягодным палажэньню мы можам аддаць на працу нашаму народу толькі нязначную часьць тае энэргіі, якую аддалі-б пры палажэньню нормальным, звычайным.

Дык як-жа ўмелая і ўважная павінна быць арганізацыя нашае працы?!

А тымчасам арганізацыяй нашае працы мы нажаль пахваліцца ня можам. Вось адзін прыклад: Заходняя Беларусь ня мае жаднага ані навуковага, ані літаратурнага беларускага журналу і мусіць здаволяваць увесь свой душэўны голад аднымі газэтамі. Ведама, што аднымі газэтамі ня толькі не здаволіш душэўнага голаду, але навет „не прагоніш першага голаду“. Заграніцу патрабуем інформаваць аб нячуваных крыўдах, якія дазнаем ад польскай улады. Заграніцай патрэбна выдаваць інформацыйны журнал у францускай або і ў некалькі чужых мовах аб перасьледаваньню нас. Нічагусенькі падобнага цяперака заграніцаю ня маем. Затое ёсьць, прыкладам, журнал вылучна культурны ў Коўні („Крывіч“), каторы тамака зусім не пашыраецца і сотнай часткі ня можа даць тае карысьці, якую-бы даў, будучы выдаваны ў Вільні. Падобных прыкладаў можна налічыць шмат.

Але тутака мы й прыходзім да таго, што ёсьць значнай перашкодай пры арганізаваньню нашае працы. Перашкодаю гэтаю ёсьць наш падзел на палітычныя партыі й кірункі. З прычыны гэтага падзелу часта адна—другая група ў якімсь месцу робіць тое, што ёй асабіста найвыгадней, ня гледзячы на тое, што ў іншым месцу гэта ўдалося-б зрабіць шмат карысьней.

Але пакуль мы ня маем свайго гаспадарства, дык усе Беларусы прадстаўляюць як-бы адну вялікаю партыю, першай і адзінай мэтаю каторай ёсьць адраджэньне й вызваленьне свайго народу. Дзеля гэтага прынамся бліжшыя кірункі павінны супольна арганізаваць сваю працу або хоць-бы не да некаторай меры ўзгодніць. Як ужо сказана, патрэба гэтага вельмі вялікая. Гэтаю патрэбу нам асабліва цяперака балюча прыпамінае ўваход на тры гады Польшчы ў Раду Лігі Народаў. Уваход гэты нам некарысны, бо, уціскаючы нас у сябе, Польшча будзе старацца, каб аб нашай крыўдзе ня ведалі ў Лізе Народаў. А тымчасам Польшчу прынялі ў Раду Лігі Народаў не бяз нашае віны, бо мы не інформавалі заграніцу аб перасьледаваньню нас Палякамі і гэтым не перашкодзілі прынятку Польшчы.

*Максім Прынскі.*

## Мэморыял

### Літоўскага Асьветнага Т-ва „Rytas“ пададзены нядаўна адумысловай дэлегацыяй Міністру Асьветы.

Літоўскія школы ў Віленшчыне ёсьць у нябывала цяжкім палажэньню, вымагаючым безадкладнага аздараўленьня.

Зацікаўленае развоем свайго школства Літоўскае Асьветнае Т-ва „Rytas“ ужо не адноўчы зварачалася зь вялікімі мэморыяламі да ўсіх б. Урадаў, а таксама да п. п. Міністраў Асьветы, але на жаль заўсёды безразультатна.

Праўны й матар'яльны стан літоўскага школства цяперака ў Віленшчыне прынукае нас ізноў дамагацца безадкладнай і радыкальнай зьмены ў адносінах гаспадарсьцьвенае ўлады да нашага школства.

Свабодны развой школства вымагае спаўненьня гэткіх дамаганьняў, каторыя лічым канечне патрэбнымі:

1. Утварэньне пры Куратормі Віленскага Вокругу адпаведных адзьдзелаў, на чале каторых былі-б Ліцьвіны, назначаныя п. Міністрам Асьветы з пасярод кандыдатаў, прадстаўленых літоўскім грамадзянствам.

2. Літоўскае школства павінна дастаць школы, карыстаючыя з поўных правоў на ўсіх ступенях (пачаткавыя, сярэднія, профэсыянальныя і вучыцельскія сэмінары).

3. Адчыненьне ўрадовых школаў пачаткавых з выкладовай літоўскай моваю, або ператтварэньне на дамаганьне мясцовага насяленьня існуючых польскіх школаў на літоўскія.

4. Прызнаньне кваліфікацыяў тым вучыцялём, што скончылі прыватныя дапаўняючыя курсы пэдагогічныя ў Вільні.

5. Хадня дзяцей у прыватныя пачатковыя школы літоўскія павінна быць уважана за досіць учыненьне павіннасьці школьнае прынукі.

6. Даваць памогі існуючым гімназіям літоўскім у Вільні і ў Сьвянцянах і вучыцельскай сэмінары ў Вільні.

7. Існуючыя прыватныя гімназіі літоўскія і вучыцельская сэмінарыя павінны быць зраўняны ў правох з такімі-ж польскімі школамі.

8. Вучыцялём і вучням усіх школаў літоўскіх трэба прызнаць тыя самыя правы, якія маюць урадовыя школы польскія (вайсковая павіннасьць, эмэрытура і г. п.).

9. Прызнаньне кваліфікацыяў дзейным вучыцялём літоўскіх сярэдніх школаў.

10. Дапушчэньне абітур'ентаў, што скончылі ў апошнія 3 гады літоўскія гімназіі, у высокія школы польскія і прызнаньне іх матураў раўназначнымі з матурамі ўрадовых гімназіяў.

11. Даць магчымасьць у 1926-27 г. назначаць за вучыцялёў пачатковых школаў літоўскіх асобы нямаючыя ўрадовых кваліфікацыяў, бо кандыдаты на вучыцялёў вучыліся ў літоўскіх сярэдніх школах, нямаючых дагэтуль гаспадарсьцьвенных правоў.

12. Дзейным вучыцялём, што здабываюць гаспадарсьцьвеныя кваліфікацыі пры помачы дапаўняючых курсаў, прыняць пад увагу іхнія сьвядоцтвы зь гімназіі і сэмінарыі літоўскай, як гэта дзеецца ў адносінах да вучыцялёў польскіх школаў.

13. Паліцыйна - адміністрацыйная ўлада павінна быць аддалена ад спаўненьня школьнае контролі і мяшаньня ў нутраное жыцьцё школы.

## Туга.

Ах, колькі-ж я бы даць гатоў
За то, каб не'к пабачыць йзноў
Край дзіцячых маіх гадоў.

Дзе ўсё было так проста, стройна,
Прытульна, гожа і прыстойна,
Вясёлкава і супакойна...

Ня так набожны пілігрым
Імкнецца ў Мэкку, або Рым,
Як я ў тый кут, ў краю глухім,

Дзе разлягліся кругом вазёры,
Агромныя бы тыя моры,
І сумныя, глухія боры...

Зь якім балючым пачуцьцём,
Я аглядаў-бы стары дом,
Дзе жыў калісь я дзіцянём.

У ім кожны кут і кожны клін,
Будзілі-б у душы ўспамін
Былых, бясклопатных гадзін.

З сьлязьмі прыпаўшы да зямлі,
Я-б ўспомнеў тых, што тут жылі
І ўжо на вечнасьць адыйшлі...

Рэчы вялікія калісь,
Цяпер малымі-бы здалісь,
А шмат зь іх пэўне ўжо зьвялісь...

Дык я-бы з сумам спазіраў
На розных перамен навал,
Якія час там паствараў.

Сярод чужых і сам чужы,
Хадзіў-бы я нямы, глухі
Па майго шчасьця цьвінтары.

Зь вялікім стогнам і жальбою,
З палючай, горкаю сьлязою,
Успамінаючы былое...

Але здарма мая туга!
Прад краем, дзе радзіўся я,
Узрасла гранічная мяжа...

*Я. Сьветазар.*

## Да ведама падпішчыкаў.

«Сялянская Ніва» акуратна выходзіць у кожны чацьвер нараніцы. На ўсе пошты ў Заходняй Беларусі прыходзе найпазьней на другі дзень, гэта значыцца ў пятніцу. Калі ў гэтым часе падпішчык не дастане газэты на пошце, няхай аб гэтым паведаміць у адміністрацыю «Сял. Нівы».

### Ліцьвіны гатуюцца да абароны.

З Коўны перадаюць, што ваенны міністар заявіў журналістам аб нязгоднасьці з праўдай вестак быццам армія мае быць паменшана, а асобныя баявыя адзінкі будуць павялічаны. У сувязі з чуткамі аб ваенных плянах Польшчы зроблены перамены ў пагранічных часьцях, а так-жа зроблены прыгатаваньні на выпадак мобілізацыі. Гранічная старожа пераходзе пад загад ваеннага міністэрства.

### Гандлёвая ўмова з Фінляндыяй.

Камісія пры міністэрстве заграгічных справаў канчае працу над улажэньнем гандлёвай умовы Літвы з Фінляндыяй. Потым гэтаю ўмову мае разглядаць рада мінітраў.

## З Польшчы.

### Сойм і ўрад.

У панядзелак 20-га верасьня пачалося паседжаньне сойму і сэнату. Найважнейшыя справы на парадку дзенным — гэта зацьверджэньне буджэту за мінулую 3-цяю чэцьверць году і прынятак буджэту на апошняю чэцьверць сёлетняга году. Дзеля гэтых дзьвюх справаў сойм і склікаьы.

На гэты раз Сойм як-бы хацеў паказаць, што ён можа непаслухаць ураду. Гэтак Сойм сваёй большасьцяй ня прыняў быў выдадзеных бязь ягонага дазваленьня ў мінулую 3-юю чэцьверць 12 міл. 300 тыс. зал. на міністэрства вайсковых справаў і не зацьвярдзіў 35 (ня поўных) міл. з агульнай сумы на апошняю чэцьверць. Але трэ' было толькі ўраду пагразіць Сойму зрабіць „зь ягонае пастановы належны вывад", г. зн., што Сойм быў-бы распушчаны, як Сойм гэтыя грошы ўраду прызнаў.

Але просьле гэтага Сойм 173-ма галасамі проці 82 выказаў няверу міністру асьветы Суйкоўскаму і потым 135-ма галасамі проці 82 вынес няверу міністру ўнутраных справаў Младзяноўскаму. Дык гэтыя міністры мусілі йсьці ў дымісію. Але з салідарнасьці разам зь імі вышаў у дымісію і ўвесь кабінэт. Спадзяюцца, што ў новым кабінэце будзе зьменена толькі некалькі міністраў, а рэшта ўсё астанецца пастарому.

Стары ўрад нягодна адносіўся да Беларусаў і іншых так званых нацыянальных меншасьцяў. Гэта й выказалі беларускія паслы ў сваіх соймавых прамовах. Ад Беларусаў прамаўлялі пас. кс. А. Станкевіч і пас. Б. Тарашкевіч.

Польская правіца крытыкавала ўрад вылучна затым, што ён ня ейны, хоць урад нічога лепшага не рабіў за ранейшыя ўрады правіцы. Польская лявіца крытыкавала ўрад толькі дзеля людзкага вока, а пры галасаваньні згаджалася з усімі праектамі ўрадовымі. Гэтак усе польскія партыі вінны за ўсё тое нягоднае, што ў нас дзеецца.

*Апошнія весьці.* Па нарадах і напэўна па загаду Марш. Пілсудскага, ўраду, што ўступіў было запрапанавана заняць толькі што пакіненае месца і ў панядзелак 27 верасьня прэзыдэнт падпісаў новы сьпіс міністраў у старым складзе. Вестка аб назначэньні былых міністраў выклікала нязвычайнае ўражаньне. Ніхто, відаць, не спадзяваўся, каб пасьля дадзенай дымісіі папрасілі міністраў ізноў на старае мейсца. Словам, неспадзеўка.

Назначэнане кабінэту Бартля ў поўным складзе проці волі соймавай большасьці значыць, што цяперашні ўрад можа не астанавіцца і перад роспускам Сойму. У палітычных колах дапускаюць магчымасьць перамены ўваходам у склад кабінэту новых выдатнейшых асоб.

### Цягнік наехаў на самалёт.

20-га верасьня на чугуначным шляху Кракаў—Гданск цягнік на паўстанку Капусьцінск наехаў на ваенны самалёт, які апусьціўся, з прычыны папсаваньня мотару, на чыгунку. Самалёт аказаўся зьнішчожаны, лётальнік астаўся цэлы.

## Пішэце ў „Сялянскую Ніву“

аб усім, што вам баліць і што вам дорага: аб зьдзеках і крыўдах дазнаваных ад адміністрацыі і іншых, аб зямлі, аб беларускай сьведамасьці, аб асьвеце (школы і інш.), аб войтах, валасных радах і паветавых соймiках, пішэце аб добрых учынках, каб людзі зь іх вучыліся, і а благіх, каб адхінуць ад благога.

Пішэце ясна і каротка пяром на адным боку паперы.

Пісаць трэба праўду. Хто ня хоча, каб ведалі яго праўдзівае прозьвішча, можа падпісавацца прозьвішчам выдуманым (мянюшкай), а побач з гэтым напісаць толькі першы раз сваё праўдзівае прозьвішча і адрэс для ведама рэдакцыі. Рэдакцыя сваіх корэспандэнтаў нікому не выдае.

Помнеце, што «Сял. Ніва» ёсьць газэтай усіх Вас, а дзеля гэтага жыцьцё кожнага вашага кутка мае адбівацца ў ёй як люстры.

## Што дзеецца ў сьвеце?

### Англія.

Забастоўка англійскіх вуглякопаў трывае дагэтуль і здаецца ня борзда будзе скончана. Надовячы спаўняючы камітэт вуглякопаў падаў ураду пропозыцыю, паводле якой вуглякопы жадалі часова працаваць за плату ўстаноўленаю ў 1921 г. Канчальна ўмовы працы былі-б устаноўлены за якісь час. Але ўрад не згадзіўся на аснове гэтае пропозыцыі быць пасярэднікам паміж вуглякопамі і собсьнікамі капальняў. Дык правадыр вуглякопаў Кок заявіў, што забастоўка будзе трываці далей.

**У англіцкай калёніі ў Амэрыццы Канадзе** (як-бы асобнае гаспадарства: Англія толькі прадстаўляе Канаду заграніцаю) адбыліся выбары ў парлямэнт. Лібэралы дасталі 119 манд., консэрватары—91, іншыя партыі па крысе. Гэтакім парадкам лібэралы перамаглі над дагэтуляшняй большасьцяй консэрватыўнай у канадзкім парлямэнце. Консэрватараў падзьдзержаваў англіцкі губэрнатар, а лібэралы йшлі на выбары пад лёзунгам аслабаніцца ад Англіі і ў заграгічнай політыцы. Значыцца Канада ймкнецца да поўнай незалежнасьці.

**Англія рупіцца аб справах у Хіне.** Англіцкі ўрад настанавіў паслаць у хінскія (кітайскія) воды эскадру з 4-х новых крэйсэраў. Уся паўночна-ўсходняя хінская эскадра англіцкая, што складаецца з 20 адзінак і стаіць у Сінгапуры, дастала загад выплыць на хінскія воды.

### Нямеччына.

Як наказуюць газэты, некаторыя адзьдзелы окупацыйных войскаў францускіх у Парэйніі былі надовячы ўзядзены адгэтуль. Гэта рэзультат француска-нямецкага паразуменьня.

### Сярэдне-эўропэйская ўмова.

Нядаўна была зроблена вугальна-зялезная ўмова паміж Францыяй і Нямеччынай. Умова гэтая ўзаемна здаваляе патрэбы абодвух гаспадарстваў у вугальлю і зялезе і нормуе іх дабываньне, бо Нямеччына мае шмат вугальля, але ёй не стае зялеза, а ў Францыі наадварот— шмат зялеза, але мала вугальля.

За прыкладам Нямеччыны й Францыі йдуць цяпер меншыя гаспадарствы сярэдняй Эўропы: Чэхаславаччына, Аўстрыя, Вугрыя, Румунія і Серба-Харвата-Славонія (Югаславія). Гэтыя гаспадарствы хочуць зрабіць паміж сабою зялезную ўмову. Надовячы прадстаўнікі зялезнага промыслу памененых гаспадарстваў мелі нараду ў Ведані. Нарада мела дадатнія рэзультаты.

### Гішпанія.

У Гішпаніі ўсё бурбулюе. Опозыцыя проці ўраду вялізарная. Спадзяюцца пераваролу. Дэмократычныя элемэнты імкнуцца да сьціненьня дыктатуры Прымо дэ Рывэравай і завядзеньня дэмократычных парадкаў.

---

быць карысьць соцыялізму толькі тады, як ён астанецца работнікам.

### Пытаньне аб сялянстве.

„Аканоміка нашага краю, кажа Бухарын, там (у опозыцыі) разглядаецца так, што, з аднаго боку, ёсьць гаспадарсьцьвеная гаспадарка, а з другога—прыватная гаспадарка, і анічога балей, пры гэтым у вадну рубрыку, за адну скобку бярэцца і прыватнакапіталістычная гаспадарка, і дробная гаспадарка сялянская і наагул уся прыватная гаспадарка—гаспадарка сялянскай галечы, гаспадарка серадняка і інш. Гэта, ведама, зусім няправільна. Як Ленін задаваў сваё пытаньне—„хто каго": мы капіталістых ці капіталістыя нас, дык ён наўперад задаваў гэтае пытаньне пад гэтакім кутом гледжаньня: *хто заваюе сялянства на свой бок,* — мы заваюем на свой бок ці капіталістыя заваююць на свой бок асноўнаю масу сялянства? Сялянская гаспадарка выступала ў усёй концэпцыі тав. Леніна наўперад як об'ект уплываў процілежных клясавых сілаў. І калі мы задаем пытаньне—„хто каго", дык гэтае пытаньне ў аснове сваёй дык-жэ і разьвязуецца тым *хто возьме* на буксір сялянства: мы ці яны, работніцкая кляса ці капіталістычная кляса, а само сялянства гэта ёсьць тая барка, за якую йдзе барацьба між работніцкай клясаю, з аднаго боку, і капіталістымі,—з другога".

„У сувязі з гэтым стаіць *другое пытаньне* з кучы гэтых сялянскіх пытаньняў: пытаньне аб перасыпаньню на карысьць прамысловасьці і на карысьць гаспадарсьцьвенай гаспадаркі коштаў зь сялянскай гаспадаркі, з прыватнай гаспадаркі наагул. Зусім ясна, што нашая гаспадарсьцьвеная прамысловасьць павінна расьціня толькі за кошт таго, што вытварае работніцкая кляса ў гэтай гаспадарсьцьвенай прамысловасьці, але што мы павінны канечне перасыпаць з неправамысловай налевы (рэзэрвуара) на прамысловасьць і яе будаўніцтва, у гэтай лічбе мы павінны штось перасыпаці зь сялянскай гаспадаркі; сялянства павінна таксама памагаці гаспадарству ставіць (будаваць) соцыялістычнаю прамысловасьць, і дзеля гэтага, што йдзе з падаткаў, з прамысловага прыбытку за тавары, каторыя мы прадаем сялянству, і з іншага, гэта ў пэўнай меры бярэцца зь сялянства".

Значыцца як адны, так і другія хочуць коштам сялянскім штучна ствараць прамысловасьць; не згаджаюцца толькі ў тым, колькі і як трэба зьдзерці на гэта зь селяніна. Далей там-жа чытаем:

„Усё пытаньне ў тым: *колькі* можам узяць зь сялянства для гэтай прамысловасьці, *у якой меры* можам гэтае перасыпаньне рабіці, *якімі мэтодамі, дзе граніцы* гэтага перасыпаньня, *як* мы павінны зрабіць свае разьлічэньні на тое, каб дастаць найкарысьнейшы рэзультат,—у гэтым пытаньне. Тут розьніца міжы нас і опозыцыяй, розьніца, што зводзіцца да таго, што опозыцыйныя таварышы стаяць за перасыпаньне звыш меры, за такі павялічаны націск на сялянства, каторы, на наш пагляд, вялікі, аканамічна неразумны і політычна немагчымы. Нашая позыцыя ня ў тым, што мы адмаўляемся ад гэтага перасыпаньня, але мы шмат цьверазей вылічаем тое, што трэба ўзяць пад увагу, робячы тое, што згодна з мэтамі гаспадарскімі й палітычнымі".

„Опозыцыя радзіць як я (Бухарын) ужо сказаў: „Бяры па магчымасьці даражэй, дык будзеш зь яго балей браць". „Балей бяры", — у гэтым уся опозыцыйная мудрасьць. Формуляваньне аднаго з опозыцыйных таварышаў, што прыслаў сваю стацьцю ў „Большевик"... у тым, што мы зь сялянства бярэм меней (?) як за царызму, а трэба браць балей, і тады ў нас усе беды шчэзнуць... Думаць, кажа далей Бухарын, што пры такім палажэньню нашая прамысловасьць будзе разьвівацца найбарждзэй,— гэта сьмешна. Прывядзем грубы прыклад: можна зь селяніна сёлета ўзяць у дзесяць разоў болей, як мы бярэм паводле цяперашняга разьлічэньня і ўсё гэта ўкласьці ў прамысловасьць. Але што-ж будзе далей? К налецьцю будзем мець на нішто нязгоджаю земляробскаю гаспадарку, ня будзе сырызны і ваты, збожжа на вываз і г. д. У прамысловасьць мы ўвалім вялізарнаю колькасьць капіталу, забраўшы ўсё чыста ў сялянства. Думаць, што гэтым мы забясьпечым сабе найбарждзэйшы тэмп развою прамысловасьці было-б неразумна, бо ў бліжшыя гады спатыкнемся аб вузіню рынку, — ня будзе купцоў на нашыя тавары".

Як бачым, як опозыцыя так і большасьць хочуць „даіць" сялянства, але калі гальлівая (прагавітая) опозыцыя хоча выціснуць адразу ўсё чыста, асьцеражнейшая большасьць хоча „даіць" сядня так, каб было магчымым „падаіць" і заўтра.

### Сяляне ў вясковых радах.

„...зьнізу, кажа опозыцыя, нашыя рады затапляе сялянская дробная буржуазія. Таварышы бяруць вынікі перавыбараў і кажуць: „Глянь-це, у вясковых радах сядзяць мужыкі, у сельрадах (сельскіх радах) мужыкоў усё балей і балей,—вось да чаго мы давялі ажыўленьне радаў..."

Большасьць партыі з гэтым не згаджаецца, яна лічыць, што беспартыйнага сялянства трэба пусьціць крыху ў рады, каб яго тамака абрабіць. Гэтак Палякі гоняць у свае школы нашых дзяцей, каб іх таксама абрабіць. Бухарын кажа: „Дзе-ж тая ляборатория, у якой мы ператраўляем сялянаў, выціскаем іх індывідуалістычнаю псыхолёгію, вядзем іх за сабой,

### Аргентына варочаецца ў Лігу Народаў.

У часе зачыненьня Агульнай Зборкі Лігі Народаў у Жэнэву прышла весьць, што заграпічная комісыя аргентынскага парлямэнту пастанавіла, каб Аргентына ўвайшла нанова ў Лігу Народаў.

### Хіна.

У Хіне (Кітаі) кіпіць грамадзянская вайна. Ужо даўно як ваююць тамака між сабою два галоўныя кірункі. З аднаго боку кантонская армія, а з другога армія ген. Ву-Пэй-Фу і армія Чанг-Цзо-Ліна. Кантонскаю армію падзьдзержуюць і маюць у ёй уплывы бальшавікі, дзьве іншыя арміі падзьдзержуюць Англія і Японія. Даўгая гэтая вайна трывае із зьменнай удачай. У вапошнім часе пашчасьціла кантонскай арміі. Гэтая армія зусім разьбіла армію ген. Ву-Пэй-Фу і цісьне армію Чанг-Цзо-Ліна. Кантонская армія пасуваецца з паўдня, дзе была дагэтуль, на поўнач. Ужо значную часьць цэнтральнай Хіны заняла кантонская армія. Бальшавікі адкрыта ёй памагаюць.

Можна спадзявацца, што неўзабаве Англія, Японія і навет мо' Амэрыка выступяць збройна проці кантонскай арміі і бальшавікоў у Хіне. Наўперад спадзяюцца дэмонстрацыі флотаў гэтых гаспадарстваў. Японія пільна сочыць за падзеямі ў Хіне, каб у вадпаведнаю часіну спыніць тамака бальшавіцкі ўплыў і самой умацавацца ў Хіне. Выглядае так, што пакуль іншыя гаспадарствы не ўмяшаюцца ў хінскія войны, датуль уплывы расейскіх бальшавікоў будуць у Хіне павялічавацца, бо бальшавіком памагае сама бяда: чым людзём гарэй, тым балей яны бальшавізуюцца.

## РОЗНЫЯ.

**Выкрыцьце карлаў белай расы ў Аўстраліі.** Нямецкі прыроднік Айдэльбэрг у глыбіні Аўстраліі выкрыў сяло, заселенае беласкурымі карламі. Ростам яны ня вышэй 130 цм. Жывуць яны ў нізкіх хатах з чароту або ў пячурах.

**Страшная бура ў Флёрыдзе.** Над паўднёвай Флёрыдай (Амэрыка) пранясласа страшная бура. Найболей пацярпелі мясцовасьці Міамі і Пальмбо. Налічаюць агулам каля 1200 забітых і 5000 раненых. Матар'яльныя страты даходзяць да 125 міліёнаў даляраў.

У Міамі аб'яўлена асаднае палажэньне. Шмат пасяленьняў шчэзла зь зямлі. Выслана 500 паліцыянтаў на падтрыманьне супакою.

**Тайфун у Японіі.** Як наказуюць з Токіо, на востраве Ошыма узьняўся страшны тайфун, які прычыніў вялізарныя спусташэньні. Забіта 37 чал., ранена 40.

**Барацьба з хуліганамі ў СРСР.** У Маскве пад старшынствам Белабародава ў Наркоме ўнутраных справаў была нарада аб барацьбе з хуліганствам. У нарадзе прынялі ўчасьце прадстаўнікі Масквы, Ленінграду, Ніжняга, Тулы і іншых местаў.

Белабародаў заявіў, што прычына пашырэньня хуліганства хаваецца ў нястачы грамадзка-ўзгадавальнай працы. Моладзі няма куды прылажыць сваю энэргію і яна яе марнуе на дурэньне і праступкі. „Перамяніўся ўвесь хатні быт, які зьнішчыў аўторытэт старшых. Агулам мы распусьціліся“ — прызнаецца камісар унутраных справаў.

Аб спосабах барацьбы з хуліганствам Белабародаў кажа так: „Трэба дазволіць міліцыі трэсьці асподы (кватэры) хуліганаў. Грашавой карай іх не настрашыш. Трэба браць іх на прымусовыя цяжкія работы. Гэтыя спосабы трэба жорстка праводзіць. Па прыкладу Украіны трэба ў важнейшых выпадках хуліганаў растрэляваць“.

# Гаспадарскі адзьдзел.

### Закладайма рамесьленыя школы!

Шэсьць год жыцьця пад Польшчаю павінна нас, сялянаў, пераканаць, што дабіцца, ад польскага ўраду палёгкі свайго палажэньня вельмі трудна. Наадварот, нашую зямлю, каторая ёсьць адзіным варштатам нашае працы, нашага жыцьця, ад нас адбіраюць і перадаюць чужнікам—Палякам. На нас накладаюць вялізарныя падаткі, розныя павіннасьці, зусім ня лічачыся з нашым паўгалодным існаваньнем.

Усё гэта паказуе, што нам сялянам, трэба самым шукаць спосабу дзеля падтрыманьня свайго жыцьця. Адным із гэтакіх спосабаў будзе рамясло, якое пры нашым малазямельлю ці безьзямельлю вельмі карысна. Гэтак барждзэй можна будзе зарабіць які грош на патрэбу, чым ісьці ў лес ставіць мэтры, ці малаціць.

Праўда, за апошнія гады у нас на вёсцы шмат размножылася розных краўцоў, шаўцоў, муляроў, кавалёў і іншых, каторыя большаю часьцю таксама сядзяць дома без работы.

Прычынаў к таму ёсьць шмат, галоўныя зь іх будуць гэтакія: агульнае абядненьне і нефаховасьць нашых вясковых рамясьнікоў. Селянін згалеў, нічога новага ня робіць, а дзеля гэтага ягоны сусед-рамясьнік таксама сядзіць без работы. Калі-ж што і робіць, то вымагае работы гладкай і чыстай, моцнай і таннай. Гэтага нашыя вясковыя рамесьнікі выпаўніць ня могуць. Большаю часьцю яны бываюць самавучкамі або вучыліся ў такіх-жа самых самавучкаў, дык работа ў іх выходзіць грубая, бяз ніякага смаку. Гэта прымушае вёску некаторыя работы, як напр. вопратка, аддаваць у места, мястэчка, дзе работа выходзіць борзда, чыста, па модзе і ў некаторых выпадках таней за вясковую. Вось гэту нястачу ў нашым жыцьці мы павінны папоўніць адчыненьнем рамесьленых школаў. Такая школа нам патрэбна дзеля таго, што дасьць магчымасьць вучыць нашых дзяцей, моладзь, ня толькі грамаце, але і рамяслу, што ў жыцьці прынясе ім вялікаю памогу. Акончыўшы такую школу, хлапец ці дзяўчына ня будуць бадзяцца бяз ніякага дзела па вуліцах, а адразу прыступяць да работы. Заракамандаваўшы сябе саліднаю работаю, могуць лічыць, што кавалак хлеба знайдуць усюды, дзе-бы іх лёс ня кінуў. Пры гаспадарцы гэта ўжо будзе даволі значны пабочны заробок. Апрача гэтага, такім сялянам-рамесьнікам можна будзе злучацца ў свае сялянска-рамесьленыя корпорацыі, арганізаваць майстроўні, закладаць склады земляробскіх і гаспадарскіх прыладаў. Адным словам, рамясло можа даць кавалак хлеба не аднэй сотні нашых безьзямельных сялянаў, што з агульнага пагляду будзе карысна ўсім. На першы пачатак добра было-б мець школы з выкладаньнем гэтакіх рамёслаў: сталярскага, кавальскага, сьлясарскага, шавецкага, кравецкага, мулярства, бандарства. Гэтыя рамёслы найбайчэйшыя ў нашым сялянскім жыцьці. Вельмі пажадана бачыць беларускага селяніна рамясьнікам-адумыслоўцам (фахоўцам), працуючага ня толькі для сябе, але і для сваіх блізкіх, для свайго Краю. Дык адчыняйма рамесьленыя школы! *Канст. Матусэвіч.*

---

прывучаем хадзіць з намі, гадуем іх і вядзем па радавых, пролетарскіх, соцыялістычных дарогах? Наўперад гэта дзеецца ў радах. І вось цяпер хочуць паставіць пытаньне такім спосабам, каб упхнуць селяніна ў цёмную канурку—хай вучыцца пры помачы бяздратовага тэлеграфу. Гэта—дурніна. „Мы на практыцы перагадовуем сялянаў, вядзем за сабой, каб забясьпечыць пролетарскаю лінію. Будоўля нашае радавае машыны гэтакая: ёсьць вышшыя ворганы, сярэднія, ніжшая і г. д. Уверсе адзін моцны актыў, каторы стаіць пад кіраўніцтвам нашае пролетарскае партыі і складаецца ў аснове із сяброў партыі. Чым далей да нізу, тым балей беспартыйных, а ў вёсцы гэтая будоўля ўпіраецца ў беспартыйных сялянаў, каторыя пацыходзяць да нас на помач. Мы памалу *прыцягаем беспартыйных сялянаў, г. зн. у істоце дробнаю буржуазію, у йсходнія паверхі, маючы зьверху забясьпечанае пролетарскае кіраўніцтва* (падч. *Д. Г.*), мы ўзгадовуем сялянаў пасвойму, уцягуем у сыстэму нашае работы, прывучаем рабіць на новых рэйках, уцягуючы ў процэс соцыялістычнага будаўніцтва. У гэтым нашае пролетарскае кіраўніцтва сялянствам і тое, *што мы дапушчаем сялянства ўісподні паверх радавай улады, гэта — неабходная прадпасылка для пролетарскага кіраўніцтва сялянствам*“ (падч. *Д. Г.*).

Страх перад сялянствам прывёў кіраўнікоў опозыцыі да перакананьня „*што, калі не пераможа міжнародная рэволюцыя, дык нямінуча контрэволюцыйны мужык* ськіне дыктатуру пролетарыяту„ (там-жа, падч. *Д. Г.*).

Пасьля ўсяго прыведзенага, можна лішні раз сконстатаваць, што опозыцыю зрадзіў вылучна страх перад сялянамі, так сказаць сялянапалох (як бывае вадапалох). Усё іншае або вынікае з гэтага страху, або служыць толькі дзеля агітацыі.

### Вывады.

З усяго сказанага відаць, якую вялікаю сілу прадстаўляе сялянства. Перамога ў комуністычнай партыі аказалася на баку тых, што стаяць усё-ж такі за меней благія адносіны да сялянства. Гэтая перамога й аказалася магчымай дзеля таго, што гэтая частка комуністых да некаторай меры апіраецца на сялянства. *Дык мы маем перад сабою вялікаю перамогу сялянства.*

З вышпрыведзенага відаць таксама тое, што як комуністычная опозыцыя, так і большасьць комуністычнай партыі лічаць сялянства сабе чужым і абедзьве хочуць яго выкарыстаць дзеля сваіх партыйна-пролетарскіх мэтаў. Розьніца паміж опозыцыяй і большасьцяй тая, што гэная (опозыцыя) хоча выціснуць у сялянства адразу ўсё, а гэтая (большасьць) — асьцеражнейшая, уважае, што выцісьне балей, калі будзе цісनуць памалей.

Каб цяперашняя перамога сялянства пад бальшавікамі сталася з часам канчальная, каб сялянства асвабадзілася, яно павінна арганізавацца. Якая-ж мае быць гэтая арганізацыя?

Сялянства наагул на'т найбяднейшае ніколі ня ёсьць пролетарыятам, гэта прызнаюць усе чыста комуністыя. З другога боку, мусім згадзіцца з большасьцяй комуністычнай партыі, што сяляне не належаць і да капіталістычнай клясы. Дык ясна, што ўсе сяляне прадстаўляць асобнаю сялянскаю клясу. Гэтаю клясу дагэтуль выкарастовавалі, „бралі на буксір“ або капіталістыя або камуністыя. Дык няма дзіва, што гэтай клясе дагэтуль жылося нягодна. Як кляса, сялянства здабудзе сабе лепшаю долю толькі сваёй клясавай арганізацыяй. Вось тая вялікая патрэба ў арганізаваньню нашага сялянства ў Беларускі Сялянскі Саюз. *Д. Г.*

---

# АД РЭДАКЦЫІ.

Дзеля таго, што ня ўсе прыслалі грошы надпіску, частцы чытароў з 1-га кастрычніка газэту перастаем пасылаці.

# НАШАЯ ПОШТА.

**М. Ш.:** Дасталі, дзякуем. Надрукуем у наступным №, бо ў гэты № было позна. Чакаем балей.

**Васілеўскаму:** Трэба 4 зал., каб надрукаваць вашаю абвестку.

**Дасталі:**

Ст. Улевіча 5 зал.

Аляксандра Пяткевіча, Максіма Краснапольскрга, Антона Кіселевіча, М. Саўкі, К. Якшука — па 2 зал.

Яна Дэшкоўскага 1 зал.

### ЗАГАДКІ.

7. Рос, рос, вырас, з торбы вылез, абгаліўся,—усім людзём згадзіўся.
8. Брэша сучка бяз кішок.

Адгадкі ў наступным нумары. За кожнаю адгаданаю за тыдзень загадку Рэдакцыя дае за паўцаны Беларускі Календар на 1927 год.

Прысылайце адгадкі адкрыткаю, бо гэтак таней на 10 грошаў.

Адгадкі на першыя тры загадкі (гл. № 29) былі надрукаваныя ў № 30 „Сял. Нівы“ гэтакія: 1) агонь, 2) венік і 3) галоўка капусты. Але Рэдакцыя лічыць, што адгадаў і той, хто на першаю загадку прыслаў адгадку „хмель“ і „вуж“, а на другую „адымачка“ або „ганучка“ (ануча). Затое неадгадаў трэцяй загадкі той, хто напісаў „цыбуля“, „певень“, „бурак“, „часнык“.

Гэтакім парадкам адгадалі ўжо: З. Сасонка, М. Плехтаў, А. Мелеховец, Конст. Маліноўскі—па 3 загадкі.

А. Татарчук, А. Рыжы, Ст. Каршун, М. Мастэрка, Л. Рамэйка, В. Балдоўская—па 2 загадкі.

Календар яшчэ друкуецца і як толькі выйдзе, тады кожны, колькі загадак адгадаў, толькі экзэмпляраў зможа дастаць календара за паўцаны.

*Адгадкі* загадак, надрукаваных у № 30: 1) міса з лыжкамі, 2) гусь, 3) соль.

### ПРЫКАЗКІ.

7. У марцы зімы ня гоніць, у вапралі трава не расьце.
8. Моладасьць—усё дурнасьць.



Рэдактар і выдавец Ст. Вольскі.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.